Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года | 14 (522) 8 красавіка 2010 года | Кошт **свабодны**




Першыя веснавыя кветкі.
Photo ByMedia.net

# Ìîñàð áóäçå ïàä «êðûëîì» ðàéâûêàíêàìà



**Янка Зуброўскі**

**Глыбоцкі райвыканкам плануе найдалей падтрымліваць створаны ксяндзом Ёзасам Булькам ландшафтны парк у в. Мосар Глыбоцкага раёна, паведамілі карэспандэнту “Народных навінаў Віцебска” ў Глыбоцкім райвыканкаме.**

Некалькі апошніх гадоў добраўпарадкаванне адбывалася сумеснымі намаганнямі нашага аддзела і кс. Ёзаса Булькі, у дэндрапарку працавалі нашыя штатныя супрацоўнікі. У нас былі вельмі добрыя адносіны з гэтым выдатным чалавекам. Зараз, пасля таго, як кс. Булькі з намі ўжо няма, наша задача зберагчы і працягваць справу кс. Булькі”, - зазначыла загадчыца аддзела культуры Глыбоцкага райвыканкама Рыма Муравей.

Ландшафтны парк пры касцёле ў вёсцы Мосар Глыбоцкага раёна быў заснаваны напачатку 1990-х гг ксяндзом Ёзасам Булькам. З 2006 года ён увайшоў у склад Глыбоцкага гісторыка-этнаграфічнага музея як асобнае падраздзяленне.

# Ñêàðá ó 500 òûñÿ÷ äàëÿðà¢ ïðûíåñëà â³öåáëÿí³íó êðûãà



**Сяржук Серабро**

Скарб з 173 залатых манет Расійскай Імперыі эпохі напалеонаўскіх войн выявіў віцеблянін на крызе, якую прыцерла да берага Дзвіны ў раёне піўзавода. На аўкцыёнах кошт кожнай з такіх манет пачынаецца з 3000 даляраў, такім чынам, сума скарбу перавышае 500 тысяч даляраў.

Увага Аляксандра Б. прыцягнулі сарокі, якія зрабілі на лёдзе ля берага кучу-малу і часам ляцелі з нейкімі бліскучымі прадметамі ў дзюбе. Рызыкуючы зваліцца ў халодную вясновую ваду Дзвіны, Аляксандр спусціўся на крыгу, дзе і выявіў манеты ў дзіўнай напаўспарахнелай торбе (як пазней высветлілася з дапамогай рэканструктараў - гэта седлавы суконны чамадан кірасіра).

Хутчэй за ўсё, скарб быў вывернуты крыгай з крутога берага Дзвіны дзесьці вышэй па плыні. Схаваў яго, па ўсёй верагоднасці, ў 1812 годзе нейкі кірасір з адыходзячага Вялікага войска Напалеона. За гэту версію кажа і тое, што ў скарбе акрамя манет ёсць два срэбныя наперсныя праваслаўныя крыжы.

На жаль, як паведаміў «Народным навінам Віцебску» Аляксандр Б., сарокам, па яго назіраннях, атрымалася пацягнуць 10-20 манет. Магчыма, цяпер гэтыя манеты знаходзяцца ў гнёздах птушак.

Прафесійныя скарбашукальнікі, з якімі мы пракансультаваліся, не выключаюць, што гэта знаходка - след да знакамітага скарба Напалеона, які ўжо два стагоддзі беспаспяхова адшукваюць у розных вадаёмах Беларусі.

# Ïðàöî¢íû äçåíü ó Áåëàðóñ³ ïåðàíåñåíû ç 12 íà 17 êðàñàâ³êà

**Марына Носава**, *БелаПАН*

**У сувязі з Радаўніцай працоўны дзень у Беларусі перанесены з панядзелка, 12 красавіка, на суботу, 17 красавіка.**

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе ўрада, такое рашэнне ўтрымліваецца ў пастанове Савета міністраў № 490 ад 1 красавіка 2010 года.

Арганізацыям даецца права з улікам спецыфікі вытворчасці (працы) ажыццяўляць перанос працоўнага дня ў іншым парадку ў адпаведнасці з заканадаўствам.

Сёлета Радаўніца прыпадае на аўторак, 13 красавіка. Такім чынам, выхаднымі будуць чатыры дні 10, 11, 12 і 13 красавіка.

## Ì¸ðñê³ ðà¸í

# Ïðûãîäû ïàñÿðîä ëåäçÿíîé ðàê³

**Станіслаў Раманчук**

**Шмат клопатаў тысячам людзей у Беларусі даставіла сёлета вялікая вада падчас веснавога разводдзя.**

Рамантычная прагулка цёплым суботнім днём парачкі маладых закаханых на востраў пасярод ракі Заходняя Дзвіна ля горада Дзісна Мёрскага раёна ледзь не завяршылася для іх бядой. З гэтага месца двое навучэнцаў прафкаледжа адсюль вырашылі паназіраць за пачаўшымся ледаходам. Перад гэтым якраз падрыўнікі МНС серыяй падрываў далі ход прыбываючай вадзе з боку яе прытоку ракі Дзісны. Рызыкоўным шляхам маладыя людзі вырашылі на вялікіх крыгах, таўшчыня якіх дасягала месцамі да 90 см дабрацца назад да берага. Але хутка зразумелі, чым можа завяршыцца для іх такая прагулка на быстрыні магутнай ракі. На шчасце, ў іх быў з сабой мабільны тэлефон. З дапамогай гэтага апарата рачныя “рабінзоны” звязаліся з дзяжурным службы выратавання Міністэрства па надзвычайных сітуацыях. Добра, што неўзабаве на паратунак трапіўшым у пастку прыбыў маторны кацер. На ім выратавальнікі даставілі аматараў прыгод на бераг.

Там ужо дзяжурылі медыкі і знайшлі стан абодвух здавальняючым, калі не лічыць дадатковага адрэналіну ад перажытага арганізмам стрэсу.

## Øàðêî¢ø÷ûíñê³ ðà¸í

# Âàäà, êðóãîì âàäà

**Чэслаў Якубовіч**

**Як і чакалася, узровень пад’ёму вады ў многіх нізінных месцах вобласці аказаўся сёлета высокім, што прывяло да падтаплення асобных панадворкаў.**

Вось і райцэнтр Шаркоўшчына, з-за шырокага выхаду вады ракі Дзісна на пойму, яго жыхары ў жартах пачалі называць маленькай Венецыяй. Адзін з мясцовых праваслаўных храмаў увогуле аказаўся адрэзаны вадой ад іншых вуліц. Каб трапіць на богаслужэнне ў перыяд Вербнай нядзелі і велікодных святаў жыхарам прыйшлося дабірацца ў царкву па вадзе на лодках. Яшчэ адзін райцэнтр вобласці Верхнядзвінск, размешчаны пасярод дзвюх рэк Заходняй Дзвіны і Дрысы, таксама сутыкнуўся з гэтай праблемай. Пад’ём вады на галоўнай воднай артэрыі вобласці тут перавысіў небяспечны рубеж, а ўзровень вады працягваў кожныя суткі павялічвацца. Пры выездзе з горада ў бок Латвіі гэтыя рэкі злучаюцца паміж сабой і гэта пагражала падтапленнем. Службы аператыўнага рэагавання тут прывялі ў павышаную баявую гатоўнасць і пільна адсочвалі абстаноўку. На ўсходзе вобласці ў Бешанковіцкім раёне жалезабетонны мост даўжынёй 70 метраў праз раку Ула аказаўся затопленым вадой на 2 метры вышэй.

## Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Óçðîâåíü ñåðâ³ñó - å¢ðàïåéñê³

**Кастусь Александровіч**

**Напярэдадні светлых і радасных велікодных святаў адразу два патрэбных людзям аб’екты адкрыліся ў Паставах.**

Пры ўездзе ў самы заходні горад Віцебшчыны з боку Літвы стала працаваць сучасная аўтазаправачная станцыя РУП “Беларуснафта”. Для аператыўнага абслугоўвання аўтамабілістаў тут паставілі імпартнае абсталяванне, у тым ліку і для запраўкі легкавых машын і грузавікоў біядызельным палівам і газам. Для сваіх кліентаў увялі тут дадатковыя паслугі: бясплатную падкачку шын і карыстанне пыласосам у салоне аўто. Вельмі зручна вадзіцелям спыніцца на АЗС вечарам альбо позна ноччу, бо працуе на станцыі магазін у дарогу. Сама тэрыторыя папрыгажэла, а штат супрацоўнікаў запраўкі павялічыўся. А ў самым цэнтры горада ля старажытнай рынкавай плошчы па суседству з прадстаўніцтвам “Прыорбанка” запрацавала пасля рэканструкцыі аддзяленне філіяла “Беларусбанка”. Пры гэтым яно арганічна ўпісалася ў ранейшую архітэктуру будынкаў XVIII стагоддзя, узведзеных італьянскім архітэктарам Джузепа Сакко. Па знешняму выгляду і контурах банкаўскі будынак вельмі падобны на ансамбль пабудоў у стылі барока. Дарэчы, і раённая аптэка пасля рэканструкцыі арганічна дапоўніла стыль плошчы, адзінай у Беларусі ансамблевай забудовы цэнтра мястэчка, якая захавалася.

## Íàäâîð’å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| | чацвер 08.04.10 | | | | пятн.08.04.10 | | | суб. 09.04.10 | | нядз.10.04.10 | | 11.04. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | - | - |
| Тэмпература, °C | +4 | +3 | +7 | +5 | +2 | +5 | +11 | +6 | +7 | +4 | +11 | +4 | +14 |
| Ціск, мм | 754 | 755 | 755 | 755 | 754 | 753 | 752 | 749 | 749 | 750 | 751 | 753 | 755 |
| Вільготнасць, % | 91 | 87 | 69 | 80 | 88 | 83 | 56 | 85 | 83 | 91 | 69 | - | - |
| Вецер м/сек | С 5 | С-В 4 | В 3 | В 2 | штл 0 | Ю 2 | Ю-В 2 | В 3 | С-З 2 | С-В 3 | В 3 | С-В 4 | В 5 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**З-за зацяжной вясны сёлета затраты на правядзенне сяўбы яравых у Беларусі ўзраслі амаль на 200 мільярдаў рублёў. Усяго насенне зерневых, бульбы, буракоў і кукурузы павінна быць запраўлена ў зямлю на плошчы 2,5 млн. гектараў, затраты на пасяўную складуць 3,95 трыльёнаў рублёў. Першымі пачалі веснавую сяўбу гаспадаркі на поўдні краіны, услед за Брэстчынай сяўбу ранніх збожжавых вядуць гаспадаркі Мінскай вобласці. Па разліках усе гэтыя адказныя работы павінны завяршыцца толькі ў сярэдзіне мая, калі не будзе істотных праблем з надвор'ем.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

***Бельгія.*** Веснавы саміт краін зоны еўра Еўрасаюза ў Бруселі вырашыў аказаць дапамогу Грэцыі ў суме 20-22 млрд. EUR, каб грэкі да канца мая змаглі пагасіць свае даўгі.

***Расія.*** Пасля новых тэрактаў на станцыях метро Масквы кіраўніцтва РФ пабяцала весці больш жорсткімі метадамі спецаперацыі супраць баевікоў на Каўказе і тэрарызму.

***Англія.*** Брытанская спецслужба МІ-5 папярэдзіла, што тэрарысткі-самазабойцы "Аль-Кайды" хутка стануць хаваць з дапамогай урачоў бомбы, зашытыя ў жаночае цела.

***Францыя.*** Варварствам назваў Савет Еўропы факт растрэлу па суду ў Беларусі 2-х чалавек да завяршэння працэдуры разгляду іх скаргаў Камітэтам па правах чалавека ААН.

***Чылі.*** У чарговы раз краіну настрашыў магутны землятрус сілай 6,1 бала па шкале Рыхтэра, эканамічны ўрон ад ранейшых штуршкоў у лютым ацэнены ў 30 млрд. долараў.

***Расія.*** У краіне стала меней на 2 часавыя паясы, на "летні час" па рашэнню кіраўніцтва РФ не перайшлі жыхары Чукоткі, Камчаткі, Удмурціі, Кемераўскай і Самарскай абласцей.

***Швецыя.*** Вядомы аўтаканцэрн "Volvo" за 1,8 млрд. USD набыла кампанія з Кітая "Джылі", кітайцы паабяцалі захаваць скандынаўскі дызайн машын і якасць аўтамабіляў.

***Самалі.*** Упершыню мясцовыя піраты захапілі адразу 8 караблёў пад сцягам Індыі і 120 заложнікаў маракоў неўзабаве пасля таго, як судны выйшлі з порту курсам на Дубай.

***Бразілія.*** Па рацэ Амазонка і яе прытоках пачаў курсіраваць першы ў свеце плавучы банк, на адлегласці 1000 міль на прыпынках ён аказвае паслугі жыхарам аддаленых раёнаў.

***Швейцарыя.*** Амаль 600 кліентаў і супрацоўнікаў казіно ў горадзе Базель прымусілі легчы на падлогу рабаўнікі, злачынцы забралі са сховішча некалькі соцень тысяч франкаў.

***Францыя.*** Кампанія BBI выдзеліла інвестыцыйны крэдыт 300 млн. EUR і пабудуе ў сталіцы Беларусі за 2,5 гады найбуйнейшую бальніцу на 1200 ложкаў з раддомам.

***Бельгія.*** Першымі ў Еўропе дэпутаты парламента прагаласавалі за праект закона на поўную забарону на нашэнне жанчынамі па ўсёй краіне мусульманскіх хустак.

***Аўстралія.*** З-за моцных праліўных дажджоў у штаце Квінсленд размыла рэльсы і ля гарадка Куранда з пуці зляцеў чыгуначны поезд, 5 пасажыраў атрымалі розныя траўмы.

***Эстонія.*** Ваеннае ведамства краіны з дапамогай сродкаў спецфонду Міністэрства абароны ЗША набудзе амерыканскія беспілотныя самалёты і 81- мметровыя мінамёты.

***Італія.*** У сталіцы краіны Рыме часткова абваліўся дах славутага Залатога Дома імператара Нерона, будаўніцтва якога было завершана ў 68-м годзе да нашай эры.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

***Мінск.*** Беларусь атрымала апошні транш МВФ у памеры каля 670 млн. USD, яшчэ адзін льготны крэдыт у суме 1 млрд. долараў нашай краіне прадаставіць Кітай.

***Магілёў.*** Горад стаў самым праблемным у Беларусі па ўзроўню забруджанасці паветра і павышанай канцэнтрацыі пылу з-за наяўнасці ў ім некалькіх буйных прамысловых зон.

***Мінск.*** А. Лукашэнка назваў парадаксальнымі адносіны з урадам РФ і абвяўляў аб дыверсіфікацыі стасункаў з Расіяй у розных сферах без тэндэнцый "малодшага" брата.

***Брэст.*** На пагранзаставе "Тамашоўка" пачалі ажыццяўляць за сродкі ЕС праект стварэння сучасных хуткасных ліній перадачы дадзеных коштам 7 млн. EUR, усяго на 50 аб'ектах.

***Мінск.*** Вярхоўны Суд Беларусі падрыхтаваў праект амністыі да 65-годдзя Перамогі над фашызмам, які не закране тых, хто здзейсніў цяжкія, грамадска небяспечныя злачынствы.

***Салігорск.*** Ужо сёлета РУП "Беларуськалій", як пацвердзілі ва ўрадзе, можа быць акцыяніравана, а надалей, магчыма, і прыватызавана стратэгічным інвестарам з Кітая.

***Мінск.*** За выкананне прагнозных паказчыкаў для кіраўнікоў увялі новы стымул гадавы бонус у суме не менш 12 службовых акладаў, такія выплаты ёсць у сусветнай практыцы.

***Бабруйск.*** З-за вялікага разводдзя ракі Бярэзіны ў раёне рачнога порта і чыгуначнага маста аказаліся падтопленымі 15 жылых дамоў, спецыялісты МНС узарвалі 200 м тоўстага лёду.

***Мінск.*** У эндаскапічным аддзяленні 6-ій гарбальніцы паспяхова правялі першую ў Беларусі аперацыю па зніжэнню празмернай вагі, на чаргзе яшчэ 10 пацыентаў.

***Жодзіна.*** Расійская група кампаній "КрасЦяжМаш" пачала перамовы аб сваім удзеле ў прыватызацыі ААТ "БелАЗ" і стварэнні СП, увесь пакет яго акцый належыць дзяржаве.

***Мінск.*** Услед за Расіяй у сталіцы ва ўсіх 14 кінатэатрах уводзяць адзіны электронны білет на сеансы ў рэжыме online праз Інтэрнет, другі лічбавы кіназал 3D адкрыецца восенню.

***Ліда.*** За падбухтораванне да дачы хабару 100 USD і бутэлькі каньяка па пытанні прызыву на зборы з доказамі злачынства аператыўнікі затрымалі ўрача гарваенкамата.

***Маларыта.*** Першымі ў краіне работнікі лясніцтва ля райцэнтра сабралі 20 тон бярозавага соку, у лясах Брэстчыны вясной усяго адгрузяць спажыўцам 6,5 тыс. тон напояў здароўя.

***Смаргонь.*** За атрыманне хабару ў суме 6 тыс. USD былы генеральны дырэктар завода апытычнага станкабудавання асуджаны на 3,5 гады турмы з канфіскацыяй маёмасці.

***Мінск.*** Да свята Вялікадня ў мікрараёне Кунцаўшчына мітрапаліт Т. Кандрусевіч блаславіў адкрытую капліцу, цяпер у Беларусі амаль 500 храмаў, але ў сталіцы - толькі 4 касцёлы.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

***Віцебск.*** Ужо з 50 краінамі свету наладзілі супрацоўніцтва прадпрыемствы канцэрна "Віцебскмясамалпрам", у 2008 годзе яны прадавалі сваю прадукцыю толькі ў 11 краін.

***Наваполацк.*** З-за эканамічнага крызіса расійскія кампаніі "ЛУКОЙЛ" і "Раснафта" прыпынілі перамовы аб прыватызацыі нафтахімічнага комплекса "Нафтан-Палімір".

***Віцебск.*** Вядомая кампанія "Марко" упершыню пачала выпускаць да новага навучальнага года пашыраны асартымент дзіцячага скуранога абутку, пачынаючы з 23-размеру.

***Гарадок.*** Па розных прычынах з раёна толькі летась найбольш на Віцешчыне выехала 511 чалавек пры існуючай нізкай нараджальнасці і высокай смяротнасці насельніцтва.

***Орша.*** На сырзаводзе запусцілі новую лінію вытворчасці 5 тысяч порцый у гадзіну марожанага эскімо і сэндвічэй у форме брыкетаў пад брэндам "Казка на ладонцы".

***Віцебск.*** Для правядзення веснавой сяўбы вобласць поўнасцю забяспечылі энерганасычанымі трактарамі, камбінаванымі пасяўнымі агрэгатамі і мінугнаеннямі.

***Полацк.*** Завод "Тэхналіт" атрымаў заказ з Малаяраслаўца (РФ) на выраб памятных гарматмарцір з нагоды 200-годдзя, чакаюцца яшчэ новыя заказы мастацкага ліцця з Расіі.

***Глыбокае.*** Дырэкцыя Глыбоцкага МКК атрымала даручэнне асвоіць выпуск малака з працяглым тэрмінам захоўвання, аналагічнага вырабам завода "Савушкаў прадукт".

***Бешанковічы.*** Больш 60 жыхароў вёскі Ульянаўка пасля разліву ракі Ула на паўмесяца аказаліся адрэзанымі ад суседняга гарпасёлка Ула, калі вада затапіла на 2 метры мост.

***Сянно.*** За высокія дасягненні мясцовай ДЮСШ павысілі статус да спецыялізаванай спортшколы алімпійскага рэзерва, у ёй 126 біятаністаў, 14 выхаванцаў у зборнай краіны.

***Віцебск.*** Да 65-годдзя Перамогі вырашана выдаць памятную кнігу-фотаальбом аб воінах-пераможцах вобласці, за апошні год іх стала меней яшчэ на 1017 чалавек.

***Чашнікі.*** Па прыгавору суда 22-гадовы хлопец атрымаў паўгода арышту за прымяненне гвалту супраць супрацоўніка ДАІ, якому п'яны пры затрыманні нанёс траўму носа.

***Лёзна.*** Урачыстым вечарам-канцэртам адзначылі ў райцэнтры 50-гадовы юбілей дзіцячай школы мастацтваў, у якой вучацца 200 дзяцей, ёй патрэбны капітальны рамонт, пакоі.

***Расоны.*** Да канца года ўжо выкупленны пуцёўкі ў Дом паляўнічых лясгаса на беразе ракі Дрыса, летась ніводзін з паляўнічых не паехаў адсюль дамоў без здабычы жывёлін.

***Полацк.*** На пастаяннае месца пражывання ў горад, культурную сталіцу Беларусі, толькі летась пераехалі яшчэ 1156 чалавек, раней у 2008 годзе яшчэ 800 новых палачан.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**16900** столькі хлопчыкаў і дзяўчынак, па дадзеных Белстата, нарадзіліся сёлета зімой у Беларусі ў студзені-лютым. Аднак спецыялісты ўжо цяпер папярэджваюць, што дэмаграфічная абстаноўка ў краіне зноў пачала пагаршацца, абумоўленая шэрагам фактараў. Толькі летась за гэты перыяд малышоў нарадзілася амаль на тысячу немаўлят болей, і тады ўзровень вымірання насельніцтва краіны быў меншы. У гэтым годзе ў нас з пачатку года зімой памерлі, для параўнання, амаль 23,5 тысяч чалавек.

Увогуле рост нараджальнасці ў Беларусі назіраўся, пачынаючы з 2004 года і працягваўся 6 гадоў. Цяпер паступова гэтыя працэсы аб'ектыўна пераходзяць у фазу спада. Паявілічыць нараджальнасць і колькасць заключаемых шлюбаў проста не выпадае таму, што ў дзетародны ўзрост уступілі значна меней маладых жанчын і мужчын з-за спаду нараджальнасці ў пачатку 90-х гадоў пасля перыяду крызісу, які завяршыўся развалам СССР. Як вынік, сёлета ў нас у студзені-лютым было зарэгістравана да пачатку велікоднага посту толькі 9,4 тысячы шлюбаў, што меней аж на 17,7 %, чым на гэту дату ў 2009 годзе.

І такія працэсы будуць працягвацца, зазначаюць спецыялісты, дастаткова доўгі час, а то і паскарацца з-за недахопу маладых пар. Рост нараджальнасці беларусаў пачнецца не раней 2022 года, калі дарослымі стануць дзеткі бебі-бума ў пачатку гэтага стагоддзя. Пакуль жа прырастае людзьмі толькі адзін горад Мінск, ва ўсіх абласцях змяншаецца колькасць насельніцтва і назіраецца адмоўнае сальда міграцыі. У глыбінцы моладзь не можа добра зарабляць і наладзіць сваё жыццё. Вось і едуць юнакі і дзяўчаты ў сталіцу, буйныя гарады, дзе пры ўсіх цяжкасцях і адсутнасці даху над галавой усё ж болей заманлівых перспектыў.

Вось ужо працяглы час самая трывожная дэмаграфічная сітуацыя ў Віцебскай вобласці, хоць ёй стаў кіравець былы віцэ-прэм'ер, медык па адукацыі і куратар пытанняў дэмаграфіі ва ўрадзе Аляксандр Косінец. Невыпадкова на адным з нядаўніх пасяджэнняў аблвыканкама ў Віцебску вострa абмяркоўваліся гэтыя праблемы. Пакуль на Віцебшчыне абстаноўка жахлівая: узровень смяротнасці на тысячу насельніцтва дасягнуў 17,8 (горшы паказчык у Беларусі), а каэфіцыент нараджальнасці самы нізкі ў краіне, усяго 9,8. Практычна ўсе раёны Прыдзвіння, як і ў цэлым беларуская глыбінка, пакрыху вымiраюць, нягледзячы на мільярды ўліванняў на тыя ж хвалёныя аграгарадкі.

Далей стане ў вобласці сітуацыя яшчэ горшая, паколькі праз 5 гадоў амаль 75 тысяч жанчын у сілу ўзросту будуць не ў стане радзіць. У дзетародны перыяд увойдуць толькі 40617 дам, а колькасць патэнцыяльных дзеяздольных татаў у наступнай пяцігоддзі зменшыцца яшчэ на 27 тысяч чалавек. Адкуль жа ў нас будуць браца дзеткі, калі з амаль 20 тысяч выпускнікоў ВНУ вобласці сярод іх больш 12 тысяч юнакоў і дзяўчат па размеркаванню паедуць працаваць у іншыя рэгіёны краіны. На Віцебшчыне таксама не хапае больш 3 тысяч урачоў і кваліфікаваных медработнікаў.

Трэба быць звышаптымістам, каб верыць, што можна паправіць дэмаграфічную сітуацыю ў вобласці, ды і ў цэлым у Беларусі. Праўда ў тым, што трэба ўжо біць у званы і папярэджваць аб пагрозе дэпапуляцыі беларускай нацыі па розных прычынах. Можна колькі заўгодна пісаць і дапаўняць розныя праграмы дэмаграфічныя, узмацняць персанальную адказнасць кадраў за рост смяротнасці, але наскокам ніколі і нідзе не ўдавалася вырашаць такія складаныя праблемы. Калі практычна кожны беларус з маленства прыкладваецца да чаркі і пачынае курыць, ігнаруе здаровы лад жыцця і элементарна ледзь зводзіць канцы з канцамі, то аб вялікай колькасці дзетак ён думаць не будзе.

Ад многіх фактараў залежыць здароўе нацыі, умовы і ўзровень жыцця людзей, каб расла колькасць шматдзетных сем'яў. Але поўнасцю ўпадаць у паніку не трэба з-за нізкай нараджальнасці. Нацыя будзе жыць, але больш увагі належыць удзяляць кожнай сям'і, кожнаму канкрэтнаму чалавеку, паляпшаць умовы яго жыцця і працы, тады і беларусаў будзе болей у свеце.

*Шаноўны спадар Барыс Кіт! Віншую Вас з юбілеем! Вядома, што ў час вайны Вы нейкі час працавалі ў Паставах. Што Вам помніцца з таго часу?*
***Пастаўчанін Іосіф Навумчык.***

**Барыс Кіт:** Я быў дырэктарам Пастаўскай настаўніцкай сэмінарыі і ганаруся гэтым. Я быў захоплены ўсімі людзьмі, якія там жывуць, тым, як маладыя прагнуць навукі, тым, як старэйшыя дапамагалі, чым маглі. Я заўсёды ўспамінаю добра Пастаўскую сэмінарыю, дзе я меў шчасьце спаткацца зь цікавымі людзьмі, беларускай элітай. Тады бургамістрам быў Дасюкевіч, ён вельмі дапамог нам, але, на жаль, згінуў ад нямецкай рукі. А самае галоўнае, ён быў раней маім любімым вучнем у Віленскай беларускай гімназіі, якую Быкаў назваў калыскай беларускага адраджэньня.

*На колькі мне вядома пэўная частка Вашага жыцьця зьвязана з Глыбокім. Я чытаў, што пад нямецкай акупацыяй вы знаходзіліся тут у вязьніцы, чакаючы прысуду. Ці не маглі б Вы больш дакладна лякалізаваць гэтае месца. Што гэта быў за будынак, альбо месца? Мне цікава гэта як краязнаўцу і журналісту. Віншую вас з Днём нараджэньня! З пашанай, **Уладзімір Скрабатун,** рэдактар газэты «Вольнае Глыбокае»*

**Барыс Кіт:** Гэта было маё падарожжа з Паставаў, дзе я быў дырэктарам настаўніцкай сэмінарыі, і я ехаў у Маладэчна, каб заняць пасаду дырэктара Адміністрацыйна-гандлёвага інстытуту. Калі я зьмяняў цягнік у Крулеўшчыне, нямецкая жандармэрыя мяне западозрыла. Яны правяралі ўсіх у цягніку, але ў мяне знайшлі шмат дакумэнтаў, і гэта яшчэ больш выклікала падазрэньні, што я маю сувязь з партызанамі. Мяне паслалі ў **Глыбокае.** Я правёў там 30 дзён. Гэта была не зусім турма, а проста адзін з падвалаў. Які гэта быў дом, я не памятаю. Гэта былі 30 дзён у страшэнных умовах. Кожны дзень прыганялі новых людзей, падазраваных у сувязях з партызанамі. Кожны дзень расстрэльвалі каля 25 чалавек. Нас было 30, заставалася 5. І кожную ноч расстрэльвалі. І кожны дзень наганялі новых 25, каб выканаць гэтую «норму» 30 чалавек у камэры. Кожны дзень расстрэлы. Пасьля 30 дзён жандармэрыі ў **Глыбокім** усё ж такі не расстралялі мяне, але выслалі ў Вілейку, у галоўную штабкватэру СД гестапа. А там я быў толькі некалькі дзён, бо ў Вілейцы ў той час упаўнаважаны, памочнік нямецкага адміністратара, быў беларус, які тлумачыў немцам справы і акалічнасьці. Ім быў Кастусь Касяк, мой былы вучань. Ён як пачуў, што я ў турме, пайшоў да ўладаў і дамогся, каб мяне вызвалілі.

*Паводле он-лайн канферерэнцыі на Радыё Свабода за 2005 год да 95-х угодкаў ад нараджэння Барыса Кіта.Захаваны правапіс арыгінала.*



**Барысу Кіту – 100 гадоў.**

«Беларуская зямля дала свету многія таленты, да якіх належыць і Барыс Уладзіміравіч Кіт. Ён з тых людзей, што ствараюць гонар любой нацыі і ў любой краіне».

*Лідзія Савік*



# Барысу Кіту – 100 гадоў



**Кліменцій Кожан,**
**м.** *Германавічы.*

Споўнілася 100 гадоў выдатнаму вучонаму, вялікаму Барысу Уладзіміравічу Кіту. Яго ведаюць у Еўропе, Амерыцы, Аўстраліі, Азіі, Афрыцы. Дзякуючы яму многія людзі свету ведаюць, што ёсць такая краіна – Беларусь.

Барыс Кіт (Кіта) нарадзіўся 6 красавіка 1910 года ў Санкт-Пецярбургу ў сям'і тэлеграфіста станцыі Шувалава Уладзіміра Кіты, ураджэнца вёскі Агароднікі Навагрудскага павета (цяпер Карэліцкага раёна). Дзед Барыса Уладзіміравіча Аляксандр Кіта ("кіта" азначае вязанка, ахапка сена) меў невялікую гаспадарку ў Агародніках, каля 4-х гектараў зямлі, якая была падзелена паміж двума сынамі – Міхасём і Уладзімірам. У сям'і было 7 чалавек – бацька, маці, два сыны і тры дачкі – Юлія, Вольга і Ганна. Дзед меў дадатковы заробак у суседнім маёнтку графа Храптовіча ў Шчорсах. Аляксандр Кіта пачаў працаваць парабкам, але дзякуючы сваім гаспадарчым здольнасцям, добраму характару ў хуткім часе стаў адміністратарам. Юлія і Уладзімір выехалі ў Санкт-Пецярбург у пошуках долі і шчасця. Міхась застаўся ў гаспадарцы ў Агародніках, а дочкі Вольга і Ганна выйшлі замуж у суседнія вёскі. Уладзімір Кіта шмат працаваў і аднначасова вучыўся. Ён паступіў на курсы сувязістаў і пасля іх заканчэння ўладкаваўся ў міністэрства пошт і тэлеграфаў. Яго паслалі на працу ў мястэчка Шувалава, якое знаходзілася на мяжы з Фінляндыяй. У гэты час Улазімір Кіта ажаніўся з Ксеніяй Дзмітраўнай Зуравай, якая паходзіла з сялян з вёскі Тулікава Кашынскага павета Цвярской губерні. Яна таксама прыехала на працу ў Пецярбург. Тут, у доме на Сувораўскім праспекце, у іх 24 сакавіка 1910 года нарадзіўся сын Барыс (па новаму стылю 6 красавіка). Ахрысцілі яго ў царкве Смольнага манастыра. Малодшы брат Барыса Юры памёр і быў пахаваны на мясцовых могілках. У Шувалава Барыс Кіт пражыў 9 гадоў, бачыў падзеі лютаўскай рэвалюцыі 1917 года, бальшавіцкага кастрычніцкага перавароту. Пачаўся голад. Маці часта ездзіла ў вёску да сваіх бацькоў, каб прывезці нешта з прадуктаў. Аднойчы яна хацела пакінуць Барыса ў вёсцы, але не пакінула. Яны вярнуліся ў халодны і галодны Пецярбург, каб у такі трывожны час быць усім разам. Пазней бацька адправіў Барыса і жонку на сваю радзіму ў Агароднікі. Гэта было ў канцы 1918 года.З імі разам ехаў дзядзька Міхась з сынам Паўлам і дачкой Надзеяй. Пасяліліся ў цёткі Вольгі ў Сапатніцы, за 10 кіламетраў ад Агароднікаў. Маці вярнулася ў Пецярбург, пакінуўшы 8-гадовага Барыса ў цёткі. Ад голаду і холаду хлопчык часта хварэў. Але маці з бацькам хутка вярнуліся з Пецярбурга, і ўсе разам пераехалі жыць у Карэлічы. Спачатку туліліся па кватэрах, пакуль бацька не пабудаваў хату на сваім надзеле зямлі ў Агародніках. Нядоўга пагаспадарыла ў новай хаце Ксенія Дзмітраўна. Яе хворае сэрца не вытрымала цяжкіх выпрабаванняў, якія выпалі на долю сям'і ў час рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. Яна памерла ў 1920 годзе. Ёй было толькі 30 гадоў. Гэта было вялікае гора для 10-гадовага Барыса. Бацька праз некаторы час ажаніўся з мясцовай жанчынай Аленай Швед, якая паходзіла з вёскі Валеўка. Гэта была працавітая, спагадлівая жанчына. Яна стала другой маці Барысу. Неўзабаве ў яго з'явіліся брат Лявон і сястра Ірына. Сям'я Уладзіміра Кіта цяжка і шмат працавала. Барыс дапамагаў бацьку. Ён пасвіў жывёлу, даглядаў дзяцей. Зімой працы было менш і бацька вучыў сына першай грамаце. Ён хутка навучыўся чытаць і пісаць,

*Працяг на стар. 5*

# Барысу Кіту – 100 гадоў

*Працяг. Пачатак на стар. 4*

асабліва палюбіў арыфметыку.

У 1924 годзе Барыс паступіў адразу ў 4 клас мясцовай польскай школы. Вучыўся выдатна. Выявіў асаблівыя здольнасці да малявання. Яго малюнкі выстаўляліся ў Познані. Дырэктар школы Дулемба абяцаў выстарацца для Барыса Кіта стыпендыю ў Акадэмію мастацтваў у Варшаве. Але з гэтага нічога не атрымалася. У сваёй кнізе "Вяртанне" Лідзія Савік аб гэтым расказала так. Адным з настаўнікаў школы быў беларус Сцяпан Рамановіч. Ён выкладаў матэматыку, часта выкарыстоўваў прыклады з сялянскага жыцця. Ён не любіў палякаў, асабліва асаднікаў. Лічыў іх дрэннымі гаспадарамі. Неасцярожны настаўнік пачаў аднойчы ўрок аб дадатных і адмоўных лічбах такім чынам: выклікаў да дошкі Барыса Кіта, як лепшага ў матэматыцы вучня. "Кіта, уяві, што ты ёсць польскі асаднік на Беларусі. Увосень ты нажаў пэўную колькасць жыта. Як робяць пераважна асаднікі, ты паленаваўся, не змалаціў яго, а проста вывез у мястэчка і прадаў яго за пэўную колькасць злотых, ну, няхай, за 500. Гэта быў твой чысты прыбытак, дык паставім перад гэтай лічбай +. Атрымаўшы гэтыя грошы, ты пайшоў у карчму і парадкам выпіў гарэлкі, ну, скажам, на 50 злотых, таму паставім перад 50 знак –. Такім чынам уводзіў настаўнік алгебраічныя паняцці дадатных і адмоўных лікаў.

Прысутныя на ўроках дзеці польскіх асаднікаў расказалі пра гэта бацькам, а тыя пайшлі да дырэктара і пачалі скардзіцца, як настаўнік Рамановіч зневажае на сваіх уроках польскіх асаднікаў. Пачалося следства. Прыехала вышэйшае школьнае начальства, пачало выклікаць вучняў на допыт. І найперш, Барыса Кіта. Аднак беларускія вучні вырашылі не выдаваць свайго настаўніка. Барыс Кіт на допыце запярэчыў супраць абвінавачванняў Рамановіча, і настаўніка не маглі звольніць з працы, але перавялі ў іншую школу. Для Барыса Кіта гэтая абарона Рамановіча скончылася тым, што яму не далі стыпендыю для навучання ў Акадэміі. Кар'ера магчымага мастака была спынена на самым пачатку. Настаўнік Рамановіч у падзяку сваім вучням-беларусам – Кіту, Васілеўскаму, Вярбіцкаму і Гоцку вырашыў "сплаціць даўгі", падрыхтаваць іх у час летніх канікулаў да паступлення ў Навагрудскую беларускую гімназію. Добра падрыхтаваныя Барыс Кіт і яго сябры паступілі ў 6-ы клас Навагрудскай беларускай гімназіі ў верасні 1926 года. Гімназія існавала на сродкі бацькоў, дзяржаўнай дапамогі не мела, таму не ўсе настаўнікі атрымоўвалі зарплату. Дырэктар гімназіі Пётр Скрабец быў клапатлівым бацькам для вучняў, патрыётам Беларусі, як і многія настаўнікі. Яны самааддана служылі беларускай справе, навучалі дзяцей роднай мове, гісторыі і іншым навукам. Барыс Кіт не толькі выдатна вучыўся, але і займаўся актыўнай грамадскай дзейнасцю. У гэты час шырока дзейнічала Беларуская сялянска-работніцкая грамада (БСРГ). Старшынёй яе быў вядомы грамадскі дзеяч Браніслаў Тарашкевіч Тады насельніцтва Заходняй Беларусі з ілюзійнымі надзеямі глядзела на Савецкі Саюз. У дзейнасці БСРГ прымалі ўдзел і старэйшыя гімназісты гэтай беларускай гімназіі. Барыс Кіт арганізаваў гурткі па вёсках, у тым ліку і ў сваіх Агародніках, дзе старшынёй гуртка БСРГ быў абраны яго бацька. Гэта нацыянальнае яднанне беларусаў можа і сёння служыць прыкладам, узорам арганізацыі, якая вядзе да агульнанацыянальнай мэты, збірае людзей незалежна ад перакананняў, падкрэслівае ў сваёй кнізе Лідзія Савік.

Палітычная актыўнасць вучняў занепакоіла дырэктара гімназіі. Ён папрасіў дзеячаў беларускага руху Б. Тарашкевіча, Р. Астроўскага, каб яны прыехалі ў Навагрудак і паўплывалі на вучняў, змусілі іх больш займацца вучобай, а не палітыкай. Але гэта не дапамагло. Хутка за палітычную дзейнасць многіх найбольш актыўных вучняў, у тым ліку і Барыса Кіта, арыштавалі. Дапытвалі некалькі дзён, але ніхто ні ў чым не прызнаваўся, ніхто не выдаў сваіх сяброў. Большая частка гімназістаў была выпушчана з паліцэйскага пастарунка. Затрымалі толькі тых, чыя сувязь з кампартыяй Заходняй Беларусі была даказана. Пазней яны былі асуджаны, прасядзелі да 1939 года. Далейшы іх лёс склаўся яшчэ больш трагічна. Калі адбылося ўз'яднанне Беларусі і пачаліся сталінскія рэпрэсіі. Многія вядомыя актыўныя дзеячы БСРГ былі арыштаваныя савецкай уладай, яны загінулі ў турмах і канцлагерах, як гэта здарылася з Б. Тарашкевічам, Рак-Міхайлоўскім, І. Дварчаніным, Валошыным. Яны былі прадстаўнікамі ад беларускага насельніцтва ў польскім сейме. Як піша Лідзія Савік, пасля разгрому БСРГ у Навагрудскай беларускай гімназіі запанаваў больш нацыянальны, беларуска-патрыятычны настрой сярод вучняў, прыціхла палітычная дзейнасць. Гэтаму накірунку садзейнічаў і новы дырэктар Янка Цеханоўскі. Ён меў вялікі ўплыў на Барыса Кіта менавіта сваёй беларускасцю. Аднак дзейная натура Барыса Кіта не магла змірыцца з ціхай плынню будзённых гімназічных дзён. Ён арганізаваў літаратурны гурток, стаў яго старшынёй, наладжваў літаратурныя вечары, прабаваў пісаць вершы. Чытаў іх на пасяджэннях гуртка.

Барыс Кіт наведваў бацьку. Тут аднавяскоўцы часта бачылі яго з кнігай, асабліва летам, калі пасвіў статак.

Бацька не мог дапамагаць яму матэрыяльна. Ён меў бедную гаспадарку, часта вымушаны быў працаваць у маёнтку Храптовіча. Барысу Кіту і іншым выдатнікам з бедных сем'яў дапамагалі дырэкцыя гімназіі і бацькоўскі камітэт, даючы магчымасць бясплатна вучыцца і жыць у інтэрнаце. Пасля сталі дапамагаць павятовыя ўлады, у прыватнасці ліберальны староста Грынеўскі і яго жонка Урсула Грынеўская.

У 1928 годзе Навагрудскі ваявода Зыгмунт Бэчковіч, даведаўшыся аб цяжкім становішчы беларускай гімназіі, многіх вучняў і настаўнікаў, дабіўся, каб ёй быў нададзены статус дзяржаўнай. Навагрудская, а затым Віленская беларускія гімназіі атрымалі дзяржаўныя правы. Але яны сталі філіяламі польскіх гімназій. Ім быў наладжаны супольны матуральны экзамен перад камісіяй пад старшынствам прафесара, прарэктара Віленскага ўніверсітэта Масоніуса, які прыязна адносіўся да беларусаў. Камісія складалася з асоб, прыйшоўшых звонку, каб захаваць пэўную аб'ектыўнасць. Экзамен працягваўся два тыдні. Барыс Кіт пісаў рэферат на французскай мове па творчасці Шатабрыяна. Ён ужо тады дасканала валодаў беларускай, польскай, французскай мовамі, якія вывучаліся ў гімназіі. Барыс Кіт атрымаўшы атэстат сталасці з добрымі і выдатнымі адзнакамі, адначасна пацвердзіў сваё права на стыпендыю і паступленне ва ўніверсітэт, а беларускія гімназіі яшчэ раз даказалі грунтоўнасць праграм і метадаў навучання, бліскуча вытрымаўшы ўсе выпрабаванні.

*Заканчэнне ў наступным нумары.*

# Нацбанк задаволіў прапанову ТБМ па выпуску памятных манет ў гонар 600-годдзя Грунвальдскай бітвы

Паводле прапановы РГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» Нацыянальны банк Беларусі адчаканіць памятныя манеты ў гонар 600-годдзя Грунвальдскай бітвы, паведаміў БелаПАН старшыня ТБМ Алег Трусаў.

15 лютага ён звярнуўся да старшыні праўлення Нацбанка Пятра Пракаповіча з лістом, у якім адзначаецца, што сёлета спаўняецца 600 гадоў з дня слаўнай перамогі пад Грунвальдам — 15 ліпеня 1410 года, калі аб'яднанае беларуска-літоўскае і польскае войска разбіла ваяўнічых тэўтонаў, на баку якіх былі рыцары з рэйнскіх зямель і іншых краін Еўропы, у тым ліку са Швейцарыі, з Вестфаліі і Мейсена. «Гэтая перамога завяршыла больш чым двухсотгадовае змаганне з крыжацкай заходняй агрэсіяй за незалежнасць Бацькаўшчыны», — гаворыцца ў лісце.

У адказе начальніка галоўнага ўпраўлення эмісійна-касавых аперацый Нацбанка Уладзіміра Сокала ад 26 сакавіка паведамляецца, што прапанова ТБМ па выпуску ў абарачэнне ў 2010 годзе памятных манет «Грунвальдская бітва. 600 гадоў» падтрымана на пасяджэнні пастаянна дзейнай рабочай групы па выпуску памятных манет Нацыянальнага банка.



Старшыня ТБМ выказаў вялікую ўдзячнасць Нацбанку за тое, што ў краіне ўпершыню з'явяцца манеты, прысвечаныя гістарычнай Грунвальдскай бітве. Ён лічыць выраб і выпуск гэтых памятных манет «вельмі важнай падзеяй для беларусаў, якіх увесь час забывалі называць сярод народаў — удзельнікаў пераможнай бітвы пад Грунвальдам».

*Марат Гаравы, БелаПАН.*

# Традыцыйна Цямніца выконваецца ў строгім стылі

■ **кс. Віктар Місевіч**

Трыдуум Мукі Пана Езуса Хрыста ў Касцёле нельга ўявіць без дэкарацый. У гэтыя дні вернікі рупліва дбаюць пра прыгажосць сваіх святынь. Папулярнымі з'яўляюцца Цямніца і Грабніца, дзе змяшчаецца Найсвяцейшы Сакрамэнт. Гэтыя дэкарацыі дапамагаюць вернікам апынуцца ў атмасферы Вялікага Чацвярга, Пятніцы і Суботы, перажыць разам з Езусам здраду, арышт, мукі на крыжы і пахаванне.


Бягомль


Параф'янава

Традыцыйна Цямніца выконваецца ў строгім стылі. Там няма кветак і часта можна ўбачыць цярновую карону ці турэмныя краты. Затое Грабніца багата аздабляецца жывымі кветкамі. Яно і не дзіўна. Таму што там знаходзіцца дарагое Цела нашага Збавіцеля.

Вось як сёлета выглядаюць дэкарацыі Трыдуума ў Докшыцкім дэканаце.



## абвесткі з хатняга тэлефона ў «ВГ»

нумар 166 дзённа й начна

Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 300 рублёў.

Абвестка тлустым шрыфтом да 5 слоў – 3000 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 400 рублёў.

# Лавіць рыбу можна толькі з берага!



Глыбоцкая міжраённая інспекцыя інфармуе:

■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Вясна павольна, але ўпэўнена ўступае ў свае правы. Усё прачынаецца, ажывае, прыляцелі птушкі і пачынаюць будаваць гнёзды.**

Для аматараў рыбалкі знята забарона на лоўлю шчупака, але лавіць можна толькі з берага адной вудай ці спінінгам.

З 13 сакавіка па 9 траўня адкрыта паляванне на гусей (белалобага, гуменніка, шэрага) у светлы час сутак з падыходу, з засады, з падманваннем, у тым ліку з падсаднымі гусакамі, профілямі, пудзіламі.

З 20 сакавіка па 10 траўня адкрыта вясновае паляванне на глушца і цецерука з падыходу і з засады на токах.

У перыяд з 30 сакавіка па 5 красавіка супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі за парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства затрымана 7 чалавек, у тым ліку 5 за парушэнне Правіл рыбалоўства, 2 за парушэнне Правіл палявання.

Так, 30 сакавіка 2010 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі на рацэ, якая працякае праз в. Ваўкі Пастаўскага раёна, за лоўлю шчупака пад'ёмнай сеткай затрыманы няпоўнагадовы мясцовы жыхар грамадзянін М., які паспеў незаконна здабыць 1 асобіну шчупака вагай усяго 200 грам, але пакаранне за такога маленькага шчупака будзе зусім не маленькае.

Таксама 30 сакавіка Глыбоцкай міжрайінспекцыяй у Глыбоцкі РАУС перададзены матэрыял у адносінах грамадзяніна К., які ў красавіку 2009 года прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за незаконную здабычу рыбы, а ў сакавіку 2010 года паўторна здзейсніў аналагічнае правапарушэнне. У цяперашні момант вырашаецца пытанне пра ўзбуджэнне ў адносінах грамадзяніна К. крымінальнай справы па ч.1 ст. 281 КК Рэспублікі Беларусь.

3 красавіка 2010 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжінспекцыі паблізу в. Кублікі Ушацкага раёна, за незаконнае паляванне з абрэзам паляўнічай стрэльбы затрыманы жыхар Ушацкага раёна грамадзянін К., канфіскаваны абрэз стрэльбы, 11 зараджаных патронаў. Матэрыялы за незаконнае паляванне накіраваны ва Ушацкі раённы суд, а за незаконнае захоўванне абрэза стрэльбы ва Ушацкі РАУС для ўзбуджэння крымінальнай справы за незаконнае захоўванне зброі.

Можна шмат прыводзіць прыкладаў варварскага стаўлення да нашай прыроды, толькі толку ад гэтага не шмат, чалавек сам павінен зразумець, што ад нас саміх залежыць чысціня азёр, рэк, берагоў, наяўнасць у іх рыбы і жывёл у лясах. Паглядзіце на беразе вакол возера Кагальнае, у вадзе плаваюць бутэлькі, смецце, галінкі дрэў, ствалы якіх насельніцтва забрала на дровы, але прыбраць галінкі павінен «дзядзька», а не мы самі.

Хацелася б задаць пытанне, чаму рыбакі самі не могуць сабрацца на суботнік і прыбраць бераг хоць бы аднаго вадаёма. Усё чакаюць, што гэта зробіць работнікі ЖКГ, але ж смецце пакідаем мы.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць па тэлефонах : «гарачая лінія» - 2-86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28, 351-28-12 (МТС)

# Не жылі культурна і пачынаць не будзем?







■ **Ул. Скрабатун**

**Не патрэбна ніякіх дадатковых каментароў! Колькі не рабі для нашага народа дабра – ён адкажа злом... Усё Глыбокае – сметнік, кожны закуток – месца папоек.**

Вось зрабілі прыгожыя альтанкі ў Барку... Побач – бойкая дарога. На Рыгу і Талін аўтобусы і аўтамабілі едуць... І ўсе кажуць: «У беларусаў – культура!» А расіяне, проста, у захапленні ад Глыбоччыны і Беларусі, наогул. Праз колькі кіламетраў – альтанкі, абсталяваныя прыпынкі, добраўпарадкаваныя, нават прыдарожныя крыніцы... Душа радуецца за наш край і краіну... Неаднойчы даводзілася чуць ад расіян: «У нас аб такім і марыць не магчыма! Такія альтанкі ў момант расцягалі б на дровы і будматэрыялы. Малайцы беларусы!». Яшчэ больш расіяне бываюць ўражаныя, што такое ўбачыш не толькі ўздоўж бойкіх дарог, але ў самай што ні ёсць глушы. У Галубіцкай пушчы, напрыклад.

Але наш народ колькі не прывучай да высокай культуры, не прывучыш! Не патрэбная яму беларуская культура! Ім падавай расійскую.

Не можа ў нас быць высокай культуры без патрыятызму – любові да свайго краю і краіны. І не будзе ніколі, пакуль не вернецца беларускамоўная адукацыя, пакуль дзеці не будуць вучыць сапраўдную гісторыю Бацькаўшчыны, пакуль кожны не пасадзіць сваё дрэўца на гарадскіх і вясковых вуліцах....








**Віншуем з Днём нараджэння!**

Желаем здоровья на долгие годы,
Пусть мимо пройдут все печали, невзгоды,
Пусть радостью, счастьем искрятся глаза,
И только от смеха сверкает слеза.



*Родныя*

Вольгу Парфяновіч

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Пожеланий наших не счесть,
Так зачем же делить их на части,
Если все они, что ни есть,
Заключаются в слове «счастье».
Желаем, чтоб жизнь никогда не кончалась,
Беда и Печаль на пути не встречались.
Огромного счастья и верных друзей,
Здоровья, Успехов и Солнечных Дней!



*Калектыў ВГ"*

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

12 – 18 красавіка 2010 г.







## ПАНЯДЗЕЛАК, 12 красавіка




**07.15** М\ф **«Аленький цветочек»** (СССР).
**07.55** «Доброе утро, Беларусь!».
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.
**09.05** «ЗВЕЗДНЫЕ ТАНЦЫ». Мужской сезон.
**10.30** Документально-биографический цикл «Моя правда» «Алексей Панин».
**11.30** Документальный фильм «Космос Ивана Миско»
**12.10** Золотая коллекция советского кинематографа. Историко-биографическая драма «Зеленая карета» (СССР).
**14.00** Женское ток-шоу «Жизнь как жизнь». «Я вышла на пенсию».
**15.10** Новости региона.
**15.25** В мире моторов.
**15.50** Концерт ансамбля «Хорошки».
**16.55** Военная драма «Высота 89» (Россия).
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Люди встречаются, люди влюбляются…» Творческий вечер поэта Олега Жукова.
**21.00** Панорама.
**21.40** **«Сабрина»**




**07.00** ОНТ представляет: «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.10** Галина Польских, Николай Караченцов в комедии **«Белые росы»**.
**11.40** «Малахов+».
**12.40** «Бесконечная история».
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** «Если можешь, прости».
**17.15** Майкл Дуглас в фильме **«Мой папа псих»**.
**19.00** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Достояние Республики».
**00.10-00.50** «Профессиональный бокс.ДжонатанБэнкс - Трэвис Уокер»




**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** **«Универ»** (Россия).
**08.30** Час суда. Дела семейные.
**09.30** В этот день.
**09.35** Сериал **«Любовь как любовь»**
**10.35** «Пра мастацтва».





**11.00** Школа ремонта.
**11.50** Внеклассный час.
**12.10** Бухта капитанов.
**12.45** **«Террористка Иванова»**
**16.00** Телебарометр.
**16.15** Час суда. Дела семейные.
**17.20** Простые упражнения с
**18.00** Сериал **«Любовь как любовь»**
**19.05** **«Люди Шпака»**
**20.05** Калыханка.
**20.25** Молодежный комедийный сериал **«Универ»** (Россия).
**21.00** Футбол. Чемпионат Англии. Обзор тура.
**22.00** Хоккей. Формула игры.
**22.30** **«Петя по дороге в царствие небесное»**
**00.10** Живой звук.




**05.30** «Званый ужин».
**06.20** «Утро.Студия хорошего настроения».
**07.30** «СТВ-спорт».
**07.40** «Утро.Студия хорошего настроения».
**08.20** «Неделя».
**09.25** «Большой завтрак».
**10.00** «Большой город».
**10.40** «Кино»: **«Д АРТАНЬЯН И ТРИ МУШКЕТЁРА»**.
**15.10** «Горячий лед».
**15.40** «Званый ужин».
**16.30** «24 часа».
**16.40** «Митрополит Филарет: служение Церкви и Отечеству».
**17.30** «Наше дело».
**17.45** «Кино»: Эмилия Спивак и Михаил Сафронов в фильме **«ПРЕДАННЫЙ ДРУГ»**. Украина, 2008 г.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «СТВ-спорт».
**20.10** «Кинопонедельник»: Евгений Миронов и Евгений Цыганов в фильме **«КОСМОС КАК ПРЕДЧУВСТВИЕ»**. Россия, 2005 г.
**22.00** «Столичный футбол».





**22.30** «Кіно»: **«ЧАСЫ»**.

БЕЛСАТ tv BELSAT

**17:00** Аб'ектыў
**17:05** **«Ранча Піковая Сямёрка»**
**17:35** Госць «Белсату»
**17:55** **«Арол: крымінальная сага»**, серыял: 13 серыя
**18:55** «Тата генерал! Беспрытульныя дзеці ў расейскім войску», рэпартаж,
**19:25** Англійская мова з Ліпі і Мэсі
**19:30** **«Прыгоды Ціўкі»**, мультсерыял
**19:40** Еўропа сёння
**20:05** ПраСвет
**20:25**«Портрет»,дак.фільм
**21:00** Аб'ектыў
**21:20** Прыватная калекцыя
**21:40** «Катынскія сведчанні»
**21:55** Прэс-экспрэс
**22:10** Моўнік
**22:15** Фільмацяка майстроў: **«Пасля канца свету»**
**00:00** Аб'ектыў

